# Кошт вышэйшай адукацыі

**_Працэсы рэфармавання адукацыйнай галіны, якія апошнім часам вельмі актыўна ідуць у большасці постсавецкіх краін, успрымаюцца неадназначна. Калі афіцыйныя структуры выканаўчай улады ўпэўнены ў правільнасці абранага курсу, дык многія прадстаўнікі грамадскасці і спецыялісты - не зусім. Адрозніваюцца і меркаванні розных сацыяльных слаёў і груп насельніцтва: больш забяспечаныя падтрымліваюць пераход на рынкавыя рэйкі, маламаёмныя заклапочаны захаваннем сацыяльных гарантый. "Настаўніцкая газета" знаёміць чытачоў з Інтэрнет-артыкулам Аляксандра Бораня, які выказваецца ад імя ўкраінскіх студэнтаў._**

Сітуацыю з адукацыяй на Украіне большасць мясцовых экспертаў і журналістаў ацэньвае даволі крытычна. Нядаўна прыняты Закон аб вышэйшай адукацыі не апраўдаў большасці спадзяванняў: прызначаны адрэгуляваць дзейнасць вышэйшых навучальных устаноў у сучасных умовах, ён, між тым, не прадугледзеў кардынальных зрухаў у рэфармаванні вышэйшай школы. Пры абмеркаванні праекта засяродзіліся, у асноўным, на некалькіх пазіцыях: працэнт бюджэтнікаў, працэдура абрання рэктараў і дзейнасць украінскіх ВНУ за мяжой. Самымі актуальнымі гэтыя праблемы назваць наўрад ці даводзіцца. Распрацоўшчыкі праекта зноў пакінулі па-за ўвагай меркаванне галоўных удзельнікаў адукацыйнага працэсу – студэнтаў, якіх сёння хвалююць многія істотныя пытанні.

Найбольш вострай на сённяшні дзень застаецца праблема даступнасці вышэйшай адукацыі для шараговага грамадзяніна. Не сакрэт, што набыццё спецыяльнасці стала справай жыцця і смерці для сотняў тысяч украінскіх сем'яў. Традыцыйна бацькі не шкадуюць грошай на адукацыю, чым добра карыстаюцца лоўкія дзялкі, якія ўмела маніпуліруюць уяўленнямі пра перспектыўнасць і прэстыжнасць той альбо іншай прафесіі. Падкрэслім, што размова ідзе не пра аб'ектыўны попыт на рынку працы, а толькі пра штучны ажыятаж вакол стыхійна папулярных спецыяльнасцей.

Міністэрства адукацыі і навукі на працягу года некалькі разоў складае пераможныя рэляцыі пра чатырохпрацэнтны рост бюджэтнікаў. Аднак лягчэй вярблюду прайсці праз вушка іголкі, чым звычайнаму абітурыенту трапіць на пэўныя факультэты. Чыноўнікі міністэрства не хаваюць праблемы карумпіраванасці вышэйшай школы, але змагацца з ёй прапануюць павелічэннем колькасці кантрактнікаў – маўляў, лепш няхай плацяць афіцыйна. Адсюль і ўся мітусня вакол 51-працэнтнай квоты для бюджэтнікаў. Міністр адукацыі і навукі В.Крэмень лічыць, што яна "штучна абмяжоўвае магчымасці тых, што жадае вучыцца на платнай аснове". Занепакоенасць міністра можна зразумець, бо давядзецца выдаткоўваць значныя сродкі з дзяржаўнага бюджэту, а калі б такой квоты не існавала, асноўны цяжар фінансавання быў бы аўтаматычна перакладзены на студэнтаў і іх бацькоў. Ды і пры ўмове квоты атрымліваецца, што палова сем'яў краіны ў стане аплачваць вучобу сваіх дзяцей. Такі падыход, мякка кажучы, не зусім стасуецца з дадзенымі аб узроўні дабрабыту ўкраінскага грамадства, пераважная частка якога знаходзіцца за рысай беднасці альбо балансуе на яе мяжы.

Многія адзначаюць, што асаблівасцю ўкраінскай вышэйшай школы фактычна стала каставасць: існуе цэлы шэраг спецыяльнасцей, даступных толькі пэўнаму колу асоб. Справа нават не ў тым, што таленавіты чалавек з пралетарскімі каранямі не здолее паступіць на жаданы факультэт – у яго проста ніколі не будзе адпаведнага ўзроўню падрыхтоўкі. На гэта перш за ўсё ўплывае тое, што паступіць у прэстыжную ВНУ немагчыма без адпаведнай падрыхтоўкі ў прывілеяваных сярэдніх навучальных установах, якія трывала ўвайшлі ў сённяшнюю рэчаіснасць, або без дапамогі рэпетытараў, на якіх патрабуюцца вялікія грошы. Такім чынам, вышэйшая адукацыя ў краіне становіцца строга дыферэнцыраванай у залежнасці ад узроўню даходаў. Можна запярэчыць, што ў гэтым няма нічога кепскага і гэта ўсяго толькі частка натуральнага развіцця грамадства.



Але такое ігнараванне прынцыпаў сацыяльнай справядлівасці непазбежна прывядзе да яшчэ большага расслаення грамадства, прычым не толькі па маёмасных, але і па інтэлектуальных, свядомасных, палітычных крытэрыях. Частка такога грамадства будзе канчаткова люмпенізавана, а паколькі для яе не адкрыецца ніякай эвалюцыйнай перспектывы, яна скіруецца выключна на ўспрыняцце разбуральных і вульгарна-рэвалюцыйных ідэй кшталту "ўсё ўзяць і падзяліць". Улічваючы, што колькасць такіх людзей можа быць вельмі значнай, перспектывы ўсёй краіны на далейшае паступальнае развіццё і паўнапраўную інтэграцыю ў сусветную супольнасць пры такім раскладзе выглядаюць даволі праблематычнымі.

Існуюць праблемы і ў самой вышэйшай школе. Зразумела, выкладчыкаў больш за ўсё непакояць вялікая вучэбная нагрузка, якая не пакідае часу на навуковыя даследаванні, мізэрная заработная плата і г.д. Для студэнтаў на першым месцы знаходзяцца пытанні стыпендыяльнага забеспячэння, наяўнасці месцаў і адпаведных побытавых умоў у інтэрнатах і іншыя.

Сур'ёзныя пытанні ёсць і да самога зместу навучальнага працэсу. Сёння ўжо відавочна, што пералік з дванаццаці абавязковых для ўсіх універсітэтаў дысцыплін (усё астатняе – профільныя прадметы і спецыялізацыі) зусім не з'яўляецца адлюстраваннем універсітэцкай адукацыі. Гэты базавы кампанент нагадвае, хутчэй, выпадковы набор курсаў. Нядаўна афіцыйныя крыніцы ў міністэрстве паведамілі аб змяншэнні аўдыторнай нагрузкі да трыццаці гадзін у тыдзень. Чамусьці ніхто не ўзрадаваўся такому праекту. Выкладчыкам гэта пагражае скарачэннямі, а студэнты павінны задумацца – калі скарачэнне, дык за кошт чаго? Калі профільных дысцыплін, то вышэйшая адукацыя як такая пaступова траціць сэнс, ператвараецца ў эрзац, бо займацца саманавучаннем і самаадукацыяй могуць людзі матэрыяльна незалежныя, не вымушаныя палову дня праводзіць у аўдыторыях, а пасля адпрацоўваць 8-гадзінны (а часам і ненарміраваны) працоўны дзень па-за сценамі універсітэта. Калі ж гэта скарачэнне абавязковых дысцыплін, дык якіх менавіта і калі? У рэшце рэшт, чаму не пацікавіліся ў нас, ад чаго можна адмовіцца, а на што, наадварот, павялічыць гадзіны?

Для класічных універсітэтаў характэрна захаванне аўтарытарных адносін паміж выкладчыкамі і студэнтамі, разам з тым нават у школах пакрысе пачынае распаўсюджвацца педагогіка супрацоўніцтва. Украінскі ж студэнт пакуль так і не стаў партнёрам выкладчыка, асобай, якая самастойна, толькі пры пэўнай дапамозе настаўніка атрымлівае спецыяльнасць, вызначае скіраванасць сваіх навуковых схільнасцей. Студэнцкае самакіраванне, як і ўдзел у планаванні вучэбнага працэсу, застаецца пакуль толькі на паперы. Большасць студэнтаў рэгіянальных ВНУ да гэтай пары пазбаўлены права выбіраць спецкурсы, выкладчыкаў нарматыўных дысцыплін, хаця адпаведны вопыт ёсць у шэрагу вядучых універсітэтаў краіны, кіраўніцтва якіх не палохаецца эксперыментаў і наватарства.

Пра эфектыўнасць вышэйшай адукацыі, як вядома, мяркуюць па працаўладкаванню спецыялістаў. І тут мы сутыкаемся з парадаксальнай сітуацыяй. Аказваецца, аб'ёмы прыёму ў ВНУ вызначаюцца аўтаномна ад рэальных запатрабаванняў рынку. Штогод штучна нарошчваецца колькасць выпускнікоў з вышэйшай адукацыяй, але размова тут не ідзе аб якасці. Любому больш-менш дасведчанаму ў сферы адукацыі спецыялісту вядома, што за некалькі гадоў якасна павялічыць кадравы патэнцыял ВНУ немагчыма – для гэтага патрабуецца даволі працяглы час і значныя фінансавыя выдаткі. Гэта значыць, павелічэнне колькасці студэнтаў адбываецца, пасутнасці, за кошт падзення якасці выкладання.

Вышэйшыя навучальныя ўстановы кожны год выдаюць 360 тысяч дыпломаў. Статыстыка сведчыць, што з агульнай колькасці выпускнікоў ВНУ ў 2000 годзе толькі палова атрымала накіраванні на работу. Працаўладкаванне астатніх было праблематычным. Нікога ўжо не здзіўляе адсутнасць працы для спецыялістаў, што вучыліся па дзяржзаказу, і, па логіцы, вельмі патрэбныя дзяржаве.

Калі на падрыхтоўку спецыяліста затрачаны бюджэтныя сродкі, то, зразумела, дзяржава павінна была б яго працаўладкаваць, – іншымі словамі, узнавіць практыку накіраванняў на работу. У нас жа цэлыя факультэты рыхтуюць спецыялістаў для віртуальных запатрабаванняў. Адразу ж пасля заканчэння такіх ВНУ студэнты вымушаны праходзіць перакваліфікацыю. Але і тут існуюць праблемныя пытанні. Што можа прапанаваць ВНУ нядаўняму выпускніку, які не здолеў знайсці працу ў родным раёне, перыферыйны цэнтр працаўладкавання? Курсы прадаўцоў альбо аператараў кацельняў, а каб стаць хаця б машыністкай, трэба ехаць у абласны цэнтр. Таму ці такім ужо добрым падаецца плануемае ў сёлетнім годзе павелічэнне колькасці бюджэтнікаў на 10%?

Вышэйшая адукацыя, адарваная ад рэальнасці, непазбежна ператвараецца ў цяжар для ўсяго грамадства, становіцца затратнай сферай, нездольнай даць станоўчы вынік і адказаць на патрабаванні часу. Выйсце бачыцца ў прывязцы адукацыйнага працэсу да рынкавага попыту, з адначасовым захаваннем асноўных дзяржаўных гарантый для падтрымання сацыяльнага балансу ў грамадстве.

НА ЗДЫМКУ: будынак Кіеўскага дзяржаўнага універсітэта.

## По старонках Інтэрнета

### Дзейнасць прыватных ВНУ падвергнецца рэвізіі

Міністэрства адукацыі Расійскай Федэрацыі збіраецца правесці "аўдыт" усіх ВНУ. Прычым чыноўнікаў перш за ўсё хвалюе якасць ведаў, якія атрымліваюць выпускнікі. Па словах міністра Уладзіміра Філіпава, ужо да канца І паўгоддзя ў краіне будзе створана незалежная сістэма атэстацыі і кантролю якасці адукацыі. Менавіта такія функцыі будуць ускладзены на новую інспекцыю, фарміраванне якой у бліжэйшы час павінен ухваліць урад. У праекце урадавай пастановы гаворыцца, што інспекцыя будзе валодаць правам адклікаць ліцэнзіі ў тых ВНУ, якія не адпавядаюць адукацыйным стандартам. Праўда, не зусім зразумела, што маецца на ўвазе пад адукацыйным стандартам: ніякіх уніфікаваных патрабаванняў на гэты конт не існуе. Сам міністр лічыць, што змены трэба ўнесці і ў існуючы закон "Аб адукацыі", бо сёння кожны рэгіён імкнецца адкрыць у сябе ўласны універсітэт ці хаця б заснаваць філіял прэстыжнай сталічнай ВНУ. Але пры гэтым нікога не хвалюе, хто і што там будзе выкладаць. Універсітэты і акадэміі працягваюць пладзіцца, як грыбы пасля дажджу, і такое становішча выклікае ў міністра расчараванне. Ён незадаволены, напрыклад, тым фактам, што пры ліцэнзаванні навучальных устаноў закон не дапускае экспертызы вучэбных праграм. Акрамя таго, на словах Філіпава, неабходна паскорыць працэс адклікання ліцэнзій з тых навучальных устаноў, якія не адпавядаюць стандартам якасці. Зараз такая працэдура дапускаецца на падставе судовага рашэння, але, верагодна, пасля з'яўлення сістэмы атэстацыі пазбаўленне ліцэнзіі стане магчымым і ў адміністрацыйным парадку.

Даводзячы свой пункт погляду, Філіпаў нагадаў, што ў мінулым годзе з 1,3 мільёна выпускнікоў школ у ВНУ паступілі 1,23 мільёна. Міністр сцвярджае, што такая колькасць не магла перайсці ў якасць: выпускнікі большасці ВНУ наўрад ці здолелі ўладкавацца па спецыяльнасці – узровень падрыхтоўкі надзвычай нізкі. Уладзімір Філіпаў выказаў меркаванне, што зараз большасць хлопцаў ідзе ў ВНУ нават не за дыпломам, проста такім чынам шукае паратунак ад арміі. І калі забараніць паступленне ў прыватныя ВНУ нельга, дык трэба хаця б сачыць, каб дапамога прызыўнікам не стала асноўным "профілем" работы гэтых устаноў. Падставы для хвалявання ў прыватных ВНУ ёсць ужо зараз – у Міністэрстве адукацыі сфарміраваны дзве рабочыя групы – па 150 чалавек у кожнай, якія вось-вось будуць накіраваны ў рэгіёны для рэвізіі.

### Парламент разгледзеў папраўкі

Парламент Эстоніі ў другім, заключным, чытанні разгледзеў папраўкі да Закона "Аб асноўных школах і гімназіях", якія рэгулююць перавод рускамоўных школ на эстонскую мову навучання. Справа ў тым, што, згодна з першапачатковай рэдакцыяй закона, усе рускамоўныя агульнаадукацыйныя ўстановы абавязаны былі перайсці на дзяржаўную мову да 2007-2008 гг.

"У адпаведнасці з нашымі папраўкамі папячыцельскі савет любой рускамоўнай школы атрымлівае права самастойна прымаць рашэнне аб пераходзе на эстонскую мову да азначанага тэрміну", – сказаў у інтэрв'ю агенцтву РИА "Новости" адзін з аўтараў новых паправак, дэпутат парламента ад кіруючай Цэнтрысцкай партыі Эстоніі Міхаіл Стальнухін. Па яго словах, папячыцельскаму савету дастаткова выйсці з такім хадайніцтвам на ўзровень мясцовага самакіравання, якое будзе абавязана перадаць яго на зацвярджэнне рэспубліканскаму ўраду.

Як падкрэсліў Міхаіл Стальнухін, калі ў рускамоўнай школе да гэтага часу няма выкладчыка дзяржаўнай мовы і для яе не рыхтуюцца настаўнікі-прадметнікі на гэтай мове, дык ніхто не зможа патрабаваць ад яе пераходу на эстонскую мову навучання. "Фактычна вышэйазначаны дакумент поўнасцю здымае праблему рускамоўнай гімназічнай адукацыі ў месцах кампактнага пражывання некарэннага насельніцтва краіны", – лічыць дэпутат.

### Семінар для старшакласнікаў

Семінар для вучняў старэйшых класаў "Перспектывы цывілізацыі вачыма выпускнікоў школ XXI стагоддзя", у якім узялі ўдзел школьнікі Украіны і Расіі, адбыўся напрыканцы сакавіка ў Падмаскоўі.

У цырымоніі адкрыцця семінара прынялі ўдзел дэпутат Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі Вячаслаў Ігруноў і саветнік пасла Украіны ў РФ Уладзімір Ражок. Падчас мерапрыемства былі узняты дзяржаўныя сцягі дзвюх краін, а таксама пасаджана дрэва сяброўства, якім чамусьці быў абраны ядловец.

Ініцыятыву правядзення семінара ўзяў на сябе грамадскі савет украінска-расійскага супрацоўніцтва. Сярод тэм, што былі абмеркаваны, – роля адукацыі і навукі ў развіцці цывілізацыі, глабалізацыя свету і месца ў ім Расіі і Украіны, развіццё адносін паміж буйнейшымі славянскімі дзяржавамі.

Па словах Вячаслава Ігрунова, гэта першы семінар, які праводзіцца менавіта сярод школьнікаў. "А ўсе праблемы, якія з'яўляюцца ключавымі для нашага свету, павінны быць асэнсаваны менавіта ў маладым узросце", – сказаў дэпутат. Ігруноў таксама паведаміў, што першапачаткова гэты семінар планаваўся толькі для расійскай моладзі, і толькі зусім нядаўна ўзнікла раптоўная ідэя запрасіць і украінцаў. Па яго словах, "у год Украіны ў Расіі такія мерапрыемствы будуць спрыяць аб'яднанню нашых народаў. А адносіны паміж братнімі дзяржавамі даводзіцца ўзнаўляць літаральна па кавалках. Пакуль жа яны выйдуць на належны ўзровень, хутчэй за ўсё, пройдзе шмат часу".

### Ва універсітэце Абердзіна створана глыбакаводная лабараторыя

Вучоныя універсітэта шатландскага горада Абердзін (Aberdeen University) завяршылі работу над стварэннем глыбакаводнай лабараторыі. Кошт станцыі, здольнай пагружацца на глыбіню 6 кіламетраў, склаў 1,2 мільёна фунтаў стэрлінгаў. Лабараторыя прызначана для правядзення даследаванняў дна сусветнага акіяна і ўяўляе вялікую цікавасць не толькі для біёлагаў, але і для спецыялістаў, што займаюцца нафтавымі распрацоўкамі марскога дна.

### Секс-настаўнікі з Каліфорніі

Курс лекцый па мужчынскай і жаночай сексуальнасці, які чытаўся ў Каліфарнійскім універсітэце, прыпынены з-за таго, што ў яго рамках студэнтаў прымушалі ўдзельнічаць у акцыях, якія прыніжалі іх чалавечую годнасць. Так, юнакі былі вымушаны слухаць сексуальныя фантазіі наведвальнікаў стрыптызбараў для гомасексуалістаў і глядзець адкрытую парнаграфію. Па стрыптызклубах вадзілі і дзяўчат – для іх прадугледжваліся лекцыі парназорак.

Кіраўнікі факультэта сацыялогіі забілі трывогу пасля таго, як адна са студэнтак універсітэта расказала, што падчас экскурсіі ў стрыптыз-бар для геяў іх выкладчык сам прадэманстраваў на сцэне стрыптыз, а пасля ўступіў у сексуальны кантакт з адным з артыстаў клуба. "Гэта было сапраўднае вар'яцтва", – сказала яна. Другі студэнт паведаміў, што хлопцаў яго курса адкрыта запрашалі прыняць удзел у оргіі, якую планавалі правесці дома ў іншага выкладчыка.

Афіцыйны прадстаўнік універсітэта Мэры Фелдэ заявіла, што расследаванне вылучаных абвінавачанняў ужо пачалося. "Падобная дзейнасць, зразумела, не ўваходзіць у праграму навучання, – адзначыла яна. – Курсы мужчынскай і жаночай сексуальнасці былі ўведзены ў праграму дзесяць гадоў таму з мэтай вывучыць забабоны і адхіленні ў свядомасці, звязаныя з сексам. Але добрае пачынанне сапсавалі".

### Павышаць якасць адукацыі на паўночным захадзе Расіі будуць фіны

У рамках супрацоўніцтва ў галіне адукацыі з памежнымі рэгіёнамі Расіі Нацыянальнае ўпраўленне адукацыі Фінляндыі запускае ў сёлетнім годзе два новыя праекты: "Удасканаленне сістэмы якасці адукацыі у Мурманскай вобласці" і "Развіццё сістэмы інфармацыйна-аналітычнага забеспячэння эфектыўнай структуры кіравання ў адукацыі Рэспублікі Карэлія".

Як паведаміў кіраўнік праекта з Нацыянальнага ўпраўлення адукацыі Фінляндыі Анці Картунен (Antti Karttunen), напачатку быў аб'яўлены тэндэр для вызначэння ўстаноў адукацыі, кансалтынгавых кампаній і іншых зацікаўленых арганізацый, якім будзе даручана непасрэдная рэалізацыя праектаў. Гэтая частка работы будзе скончана да лета, а завяршэнне усіх мерапрыемстваў запланавана на канец 2004 года. "Агульны кошт двух праектаў ацэньваецца ў 368 тысяч еўра", – адзначыў Анці Картунен. – На запуск праектаў у 2002 годзе фінскі ўрад выдзеліў 169 тысяч еўра, астатняя частка бюджэту будзе зацвярджацца па меры ажыццяўлення работ у 2003 і 2004 гадах".

### Камп'ютэрныя гульні могуць увайсці ў праграму брытанскіх школ

Англійскія вучоныя высветлілі, што камп'ютэрныя гульні аказваюць дабратворнае ўздзеянне на здольнасці дзяцей да лагічнага мыслення і хуткага прыняцця рашэнняў у складаных сітуацыях.

У даследаванні, праведзеным спецыялістамі з арганізацыі "Teachers Investigating Educational Multimedia", прынялі ўдзел больш за 700 дзяцей ва ўзросце ад 7 да 16 гадоў. У выніку было выяўлена, што камп'ютэрныя гульні спрыяюць поспехам дзяцей у вучобе. Назіралася паляпшэнне паказчыкаў па такіх прадметах, як матэматыка, правапісанне і чытанне.

Як сцвярджаюць аўтары даследавання, камп'ютэрныя гульні, акрамя ўсяго іншага, развіваюць камунікатыўныя здольнасці, таму што дзеці, як правіла, любяць гуляць на камп'ютэры парамі альбо невялікімі групамі. У якасці прыкладу гульняў, што развіваюць у дзяцей лагічнае мысленне, даследчыкі назвалі вядомых "Сімаў", дзе гульцам прапануецца пабудаваць горад і стварыць у ім грамадства, падтрымліваючы яго жыццядзейнасць.

Многія ставяцца да пытання дастаткова сур'ёзна. Так, ва ўрадзе прапрацоўваюцца шляхі ўкаранення камп'ютэрных гульняў у школьную праграму.

Даследаванне таксама засведчыла той факт, што ва ўмовах імклівага тэхналагічнага развіцця грамадства традыцыйная адукацыя, заснаваная на вывучэнні падручнікаў і чытанні кніг, губляе свае пазіцыі. Так, высветлілася, што 15-гадовыя падлеткі праводзяць за чытаннем кніг усяго 2 гадзіны на тыдзень, у той час як на прагляд тэлепраграм у іх трацiцца 11 гадзін, а 9 займаюць камп'ютэрныя гульні.

### Бібліятэк шмат, а школ не хапае

Колькасць прадпрыемстваў рознічнага гандлю ў Краснаярску перавышае федэральныя нарматывы ў 2 разы. Пра гэта на пасяджэнні калегіі адміністрацыі горада паведаміў намеснік кіраўніка краявога цэнтра, дырэктар дэпартамента горадабудаўніцтва Анатоль Грыгарэнка. Па яго словах, нарматывы, устаноўленыя федэральнымі ўладамі, перавышаны таксама і па колькасці бібліятэк. А вось школ і дзіцячых садкоў у Краснаярску недастаткова – адпаведна 85 і 90% ад устаноўленай нормы.

### Інтэрнаты таксама спаборнічаюць

У Іванаўскай вобласці Расійскай Федэрацыі падведзены вынікі агляду-конкурсу інтэрнатаў навучальных устаноў сярэдняй прафесійнай адукацыі. Ён быў арганізаваны абласным упраўленнем адукацыі, камітэтам па справах моладзі, а таксама Саветам дырэктараў навучальных устаноў сярэдняй прафесійнай адукацыі Іванаўскай вобласці. Усяго ў вобласці сярод 33 устаноў прафесійнай адукацыі толькі 18 маюць уласныя інтэрнаты, дзе пражываюць 2800 навучэнцаў. Конкурсная камісія адзначыла, што ў большасці інтэрнатаў створаны спрыяльныя ўмовы для пражывання: пакоі, разлічаныя на 2-х і 3-х чалавек, абсталяваныя кухні, душавыя, пакоі для заняткаў, бібліятэкі, спартыўныя і трэнажорныя залы. У цяперашні час у трох інтэрнатах праводзіцца капітальны рамонт.

Лепшымі ж былі прызнаны інтэрнаты Кінешмскага педагагічнага каледжа, Іванаўскага абласнога вучылішча культуры і Шуйскага медвучылішча. Ім уручаны дыпломы і каштоўныя падарункі. Дыпломамі аргкамітэта адзначаны таксама інтэрнаты Іванаўскага энергетычнага і аўтатранспартнага каледжаў, Іванаўскага кааператыўнага тэхнікума і Палехскага мастацкага вучылішча.

### Шэсцьдзесят рускамоўных студэнтаў з Эстоніі атрымаюць стыпендыю мэра Масквы

Як паведаміла агенцтва РИА "Новости", 60 рускамоўных студэнтаў з Эстоніі атрымаюць стыпендыі мэра Масквы у памеры 50 долараў ЗША. Такое рашэнне прыняў днямі папячыцельскі савет праграмы стыпендыі Юрыя Лужкова, якая дзейнічае ў краіне ўжо два з паловай гады.

"У першую чаргу праграма скіравана на падтрымку дзяцей з малазабяспечаных рускамоўных сем'яў", – паведаміў член папячыцельскага савета, намеснік кіраўніка Дэпартамента міжнародных сувязей урада Масквы Уладзімір Лебедзеў. Па яго словах, праграма дае студэнтам магчымасць атрымліваць адукацыю на роднай мове. "Для нас гэта мае агромністае значэнне ў плане захавання рускай культуры і рускай мовы ў Эстоніі", – зазначыў ён.

"Калі параўноўваць з Масквой, дык гэта працяг той жа лініі, якой мы прытрымліваемся ў нашым горадзе, дзе пражываюць прадстаўнікі больш 130 нацыянальнасцей." – сказаў на заканчэнне прэс-канферэнцыі Уладзімір Лебедзеў.

### У Мікалаеве створаны гуманітарны універсітэт

На базе Мікалаеўскага філіяла Нацыянальнага універсітэта "Кіева-Магілянская акадэмія" будзе створаны Мікалаеўскі дзяржаўны гуманітарны універсітэт імя Пятра Магілы. Аб прыняцці гэтага рашэння аб'явіў у Мікалаеве падчас сустрэчы з выкладчыкамі і студэнтамі ВНУ Прэм'ер-міністр Украіны Анатоль Кінах.

Сённяшнім часам у Мікалаеўскім філіяле Нацыянальнага універсітэта "Кіева-Магілянская акадэмія" вучыцца каля 1,51 тысячы студэнтаў. Ліцэнзаваны аб'ём прыёму складае 460 чалавек у год. У ВНУ дзейнічае аспірантура па 11 напрамках. Адукацыйны працэс забяспечваюць 12 кафедр, на якіх працуюць 170 выкладчыкаў.

### Камп'ютэры ўручылі за кансерватызм

Нядаўна былі падведзены вынікі конкурсу навуковых работ "Расійскі кансерватызм: ідэя, гісторыя, перспектыва." Днямі ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце адбылося ўрачыстае ўшанаванне пераможцаў. Журы конкурсу разгледзела больш за 500 прац студэнтаў аспірантаў расійскіх ВНУ. У МДУ за "круглым сталом" сустрэліся трынаццаць лепшых: 3 лаўрэаты і 10 дыпламантаў конкурсу. Яны прыехалі з Яраслаўля, Новасібірска, Дагестана, Далёкага Усходу, іншых рэгіёнаў Расіі. Лаўрэатам уручылі ноўтбукі, а дыпламантам – монаблокі з убудаванымі відэамагнітафонамі. Акрамя таго, кожны атрымаў дыплом, на якім стаяць подпісы Міністра па надзвычайных сітуацыях Сяргея Шойгу, Міністра адукацыі Уладзіміра Філіпава і рэктара МДУ Віктара Садоўнічага.

Падчас свайго выступлення рэктар Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта сказаў пра неабходнасць для навукоўцаў асэнсавання і звароту да традыцый расійскага грамадства. Ён адзначыў, што Расія на працягу ўсяго свайго існавання трымалася менавіта на традыцыях здаровага кансерватызму, які зусім не выключае паступальнага развіцця краіны.

### Міністэрства аховы здароўя ўзгадала пра школьнікаў

Згодна з прагнозам Міністэрства аховы здароўя, толькі ў бягучым годзе на правядзенне дыспансерызацыі спатрэбіцца 11 мільярдаў рублёў. Вынікі работы плануецца падвесці напрыканцы года.

Не сакрэт, што колькасць хворых выпускнікоў школ павялічваецца штогод. Многія з іх да заканчэння вучобы маюць па два-тры хранічныя захворванні. Асаблівую трывогу выклікае здароўе дзяўчат – яно, як правіла, нашмат горш, чым у хлапцоў-падлеткаў.

На нядаўняй калегіі Міністр аховы здароўя заявіў, што дыспансерызацыя будзе максімальна пільнай, "адраснай", абсалютна на кожнага расійскага падлетка будзе заведзена асабістая медыцынская картка. Акрамя таго, што ў школах плануецца стварыць сетку медыцынскіх кабінетаў, у буйных агульнаадукацыйных установах будуць свае ўрачы-педыятры. Яшчэ адзін важны кірунак работы, які неабходна істотна палепшыць, – забеспячэнне школьнікаў гарачым харчаваннем.

### Цярпімасць выхаваюць у школе

Сталічным тынейджэрам давядзецца наведваць урокі цярпімасці. Занепакоены шматлікімі інцыдэнтамі на расавай глебе, што сталі прычынай чалавечых ахвяр, маскоўскі ўрад вырашыў арганізаваць выкладанне ў школах новага прадмета, які "павінен будзе прывіць падрастаючаму пакаленню асноўныя навыкі цярпімасці". Назва курса пакуль яшчэ не прыдумана, але чыноўнікі ўмоўна абазначылі яго як "спрыянне ўсталяванню талерантнай свядомасці і папярэджанню экстрэмізму". Для кансультацый плануецца прыцягнуць адпаведных спецыялістаў – работнікаў праваахоўных органаў, якія будуць тлумачыць настаўнікам, што і як трэба выкладаць.

### Інтэрнет для... зняволеных

Выхаванцам Ікшынскай калоніі, як ні па-блюзнерску гэта прагучыць, пашанцавала так, як шанцуе далёка не кожнаму расійскаму школьніку. Папраўчую ўстанову для падлеткаў падключылі да Інтэрнета, а падобнае задавальненне і сёння даступна не кожнай агульнаадукацыйнай установе. Акцыя па інтэрнетызацыі калоніі прайшла пад эгідай Федэрацыі Інтэрнет-адукацыі. З яе дапамогай педагогі агульнаадукацыйнай школы, што існуе пры калоніі, адкрылі ўласны сайт, арганізавалі вучэбна-інфармацыйны цэнтр на 15 рабочых месцаў, абсталяваны па апошняму слову тэхнікі.

Праўда, наведваць клас змогуць не ўсе, а толькі тыя, хто вызначаецца прыкладнымі паводзінамі і вучобай. І, зразумела, доступ да асобных рэсурсаў, напрыклад, порнасайтаў, забаронены. А вось атрымліваць карысную пазнавальную і адукацыйную інфармацыю падлеткі змогуць у поўным аб'ёме.

Арганізаваная Федэрацыяй Інтэрнет-адукацыі акцыя, такім чынам, дасць магчымасць вырашыць важную сацыяльную задачу – калонія будзе выпускаць не толькі слесараў альбо токараў, але і вопытных карыстальнікаў Інтэрнета, якім дзе значна лягчэй адаптавацца ў сучасным жыцці.

Арганізатары акцыі спадзяюцца, што эксперымент стан "першай ластаўкай" і ўдасца прыцягнуць да гэтай справы спонсараў. Гэтаму можа садзейнічаць і тое, што тэма дапамогі зняволеным –дастаткова папулярная (асабліва ў пэўных колах грамадства), і правядзенне такіх акцый можа быць добрым іміджавым праектам для многіх камерцыйных арганізацый.

### Выдатныя веды і за грошы не купіш

У Новасібірскім абласным судзе пачаўся суд над былым дацэнтам кафедры тэарэтычнай і прыкладной фізікі Новасібірскага дзяржаўнага аграрнага універсітэта Станіславам Вікулавым. Акрамя выкладчыка, на лаве падсудных апынуліся яшчэ чацвёра студэнтаў. Усе яны абвінавачваюцца ў атрыманні хабару.

Паводле дадзеных следства, Вікулаў стварыў арганізаваную злачынную групоўку са студэнтаў 3 і 4 курсаў з мэтай вымагання хабару ад іншых навучэнцаў. Падзельнікі "прадпрымальнага" выкладчыка прапаноўвалі сваім сакурснікам атрымаць станоўчую адзнаку на экзамене па фізіцы, не здаючы яго. У жадаючых яны збіралі залікоўкі і грошы. Сумы хабару вагаліся ў межах ад 100 да 400 рублёў, у залежнасці ад таго, якую адзнаку хацеў атрымаць студэнт. Праціпраўную дзейнасць выкладчыка супрацоўнікі праваахоўных органаў спынілі летам мінулага года. Усяго ўстаноўлена 58 фактаў атрымання хабару. Паколькі Вікулаў не ўяўляў пагрозы для грамадства, дык да апошняга часу ён займаўся выкладаннем свайго прадмета, праўда, ужо ў іншай ВНУ. Дзеянні дацэнта і яго памагатых трапляюць пад артыкул 290 (частку 2) Крымінальнага кодэкса, які прадугледжвае пазбаўленне волі тэрмінам да 7 гадоў.

Цікава, што Станіслаў Вікулаў за хабар прынцыпова не ставіў пяцёрак. Маўляў, выдатныя веды за грошы не прадаюцца.

**Матэрыялы паласы падрыхтаваў Уладзімір МАТУСЕВІЧ.**

